# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 49 (980) ГОД XIX 8 СНЕЖНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.


## Новыя вершы

* * *

Мне не дайсці да ісціны
без хісткага мастка,
без вербавага лісціка,
крынічнага глытка.

Мне не дайсці да ісціны,
не зразумець зямлі,
калі не верыць лісціку
на дужым камялі.

**Валерый Драпчук**

## Нашы ІНТЭРВ'Ю



На вялікай, на ўсю сцяну, карце Беластоцкага ваяводства ўецца густая сетка блакітных тоненькіх жылак ды дзе-недзе параскіданы нерэгулярныя сінія плямы. Указка ў руцэ дырэктара Ваяводскага праўлення воднай гаспадаркі і меліярацыі мгр інж. **Уладзіміра Каладзеюка** спачатку вандруе па верхняй частцы карты, і я даведваюся аб праектаваных працах на азёрах Паўночнай Беласточчыны, якія павінны стаць абшырнымі натуральнымі басейнамі — гэтага аднаго з асноўных багаццяў нашай краіны і галоўнай сыравіны для вытворчасці ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці. Калі ўказка апусцілася ніжэй, паўстаў вобраз вялікага канала, якім прыйдзе вада з Мазурскіх азёраў у Кольненскі павет на Беласточчыне, каб арасіць там каля 30 тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, што ўжо адчуваюць недахоп вільгаці. І вось вастрыё ўказкі затрымоўваецца на даволі вялікай сіняй пляме і чырвоных лініях вакол яе. Гэта верхняе цячэнне ракі Нарвы.

— Праект прадбачвае меліярацыю каля 31 тысячы гектараў лугоў і забалочаных зямель у далінах верхняга цячэння рэк Нарвы і Супраслі, — расказвае У. Каладзеюк. — На абедзвюх рэках будзе ўзведзена каля 40 значных гідратэхнічных будоўляў: плацінаў, водных парогаў, станцый помпаў для арашэнняў і г.д. Паўстане таксама вадасховішча Семяноўка. Яно зойме даліну ракі Нарвы паміж вёскамі Бандары, Рыбакі, Боўтрыкі, Бахуры, Буды, Цісоўка, Баб'я Гара, Семяноўка, Лука. Яго паверхня складзе каля 3 тысяч гектараў, а змесціцца ў ім каля 80 мільёнаў

## СЕМЯНОЎСКАЕ МОРА

кубічных метраў вады. Яна будзе накіравана, па-першае, на арашэнне 31 тысячы гектараў гэтых меліяраваных лугоў і зямель з сельскагаспадарчым камбінатам Візна ўключна, па-другое, частка яе спецыяльным каналам пойдзе ў раку Супрасль, учыніць яе больш багатай вадою, гэтым самым створыцца для горада Беластока вялікі запас пітнай вады, які спатрэбіцца ўжо ў 80—90-тых гадах. Галоўная запруджваючая Нарву плаціна паўстане ў ваколіцах вёскі Бандары, а канал будзе пралажаны непадалёк урочышча Імшар. Сярэдняя глыбіня самога вадасховішча будзе ў межах 2,5 метра, а найглыбейшыя месцы будуць мець і па 7 метраў. Нават у самыя сухія перыяды люстра вады ў вадасховішчы будзе займаць звыш паўтары тысячы гектараў, і таму прадбачваецца заснаванне ў ім коштам 20 мільёнаў злотых вялікай рыбнай гаспадаркі. Спецыялісты ў гэтай галіне прапануюць разводзіць белага амура. Як паказала шматгадовая практыка ў Савецкім Саюзе, гэтая траваедная рыба дасканала ахоўвае вадасховішчы і каналы ад зарастання водарасцямі і дастаўляе многа і надта смачнага мяса.

— Якое будзе ўздзеянне вадасховішча Семяноўка на наваколле?

— Перш за ўсё павысіцца ў наваколлі ўзровень вады ў грунце, а гэта надта важная справа для вядзення інтэнсіўнай сельскай гаспадаркі. Меліяраваныя абшары, якія не зойме вадасховішча, будуць перададзены ў загаспадарванне. У ваколіцах вёсак Баб'яй Гары, Семяноўкі, Будаў і іншых паўстануць пальдэры, г.зн. абшары, якія знаходзяцца ніжэй узроўню вады ў вадасховішчы, адгароджаныя ад яго дамбамі. Сістэмы каналаў і станцыі помпаў будуць рэгуляваць узровень вады ў іх грунце. Як вядома, пальдэры — гэта высокаўраджайныя абшары, якія пры інтэнсіўнай гаспадарцы надта ж выдайныя. Зразумела, з-за вадасховішча трэба будзе перанесці некаторыя сялібы ў навакольных вёсках на іншыя месцы. Ці гэта будзе праведзена шляхам матэрыяльнай кампенсацыі пераселеным сялянам, ці ў форме пабудовы дзяржаўнымі прадпрыемствамі новых будынкаў — пакуль што канчаткова не вырашана. Я асабіста прыхіляюся да таго, каб пабудаваць новыя гаспадаркі з улікам усіх самых новых патрабаванняў у

Працяг на стар.4

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ Ў БЕЛАСТОКУ

У Беластоку беларуская кухня! Калі напярэдадні Кастрычніцкага свята адкрылі рэстаран „Гродна“, у вялікай яго зале нельга было знайсці вольнага месца. У той жа час у горадзе Гродна быў адкрыты рэстаран „Беласток“, дзе гродзенцы могуць спажываць польскія стравы і знаёміцца з беластоцкай кухняй. Такія добрасуседскія кантакты вядомы здаўна. Яны даюць магчымасць лепшага ўзаемапазнання і, што ні кажы, умацоўваюць дружбу!

Як выглядае рэстаран „Гродна“, што знаходзіцца ў памяшканні былога „Люксу“ на рагу вуліц Сянкевіча і Варшаўскай?

Вельмі тут прыемна. Беларускі каларыт праяўляецца перш за ўсё ў вялікай колькасці выкарыстанага ў якасці дэкарацыйнага элемента дрэва. Архітэктар Каміль Асадаў з Гродна (азербайджанец, зрэшты) вельмі трапна падмеціў і выэкспанаваў гэту адметную рысу беларускага мастацтва (зямля лясоў!). Нацыянальны элемент прымае тут, аднак, даволі сучасную форму (хопіць глянуць уверх, на паталок). На драўляных калонах бачым беларускі арнамент, там ручнікі, кутыя ў метале талеркі на сценах, а там барэльеф, сімвалізуючы постаць бацькі, што трымае ў руцэ дату 1128 — год паўстання горада Гродна. У зале стылізаваныя драўляныя сталы. На іх ільняныя сурвэткі.

У рэстаране „Гродна“ ўсе афіцыянткі — дзяўчаты. Усе, як кветкі. На іх прыгожыя каляровыя спаднічкі ў палоску, белыя льняныя блузачкі з арнаментам і такі ж фартушок. У валасах істужка таксама з нацыянальным арнаментам. І на руцэ — сціračка, прыгожая, цудоўная, з шэрага ільну ў беларускія народныя ўзоры. У белыя льняныя кашулі апрануты і музыканты 5-асобовага аркестра, які ўміляе настрой наведвальнікаў ад 19-ай да 24-ай гадзіны.

Усе дэкарацыйныя элементы рэстарана, мэбля, усе ўборы, посуд, напіткі і г.д. былі прывезены з горада Гродна.

**(Працяг на стар. 3)**



*Гродзенцы ўручылі беластаччанам сімвалічны ключ ад „Гродна“.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

 

(Працяг са стар. 1)

## Семяноўскае мора

сучаснай сельскай гаспадарцы і сялянам толькі ўручыць ключы да гатовых аб'ектаў.

— Ці вадасховішча будзе таксама аб'ектам адпачынку?

— Так, і нават значным. Праектнае бюро горадабудаўніцтва пры Ваяводскім упраўленні ўжо апрацавала багатую праграму загаспадарвання вадасховішча. Прадбачваецца пабудова цэнтраў адпачынку і воднага спорту ў ваколіцах вёсак Боўтрыкі, Семяноўка і іншых гідратэхнічных аб'ектаў, мы будзем узводзіць гасцініцы, гаспадарчыя будынкі, сталоўку.

— У якім стане цяпер знаходзіцца надрыхтоўка да гэтай вялікай пабудовы?

— Задума гэтай сапраўды вялікай будоўлі паўстала даўно і падрыхтоўка да яе вядзецца не адзін год. Для прыкладу, назіранні над колькасцю сплываючай вады ў верхняй Нарве вядуцца ўжо на працягу 20 гадоў. Яны паказваюць, што гэтаму гідратэхнічнаму аб'екту не будзе пагражаць недахоп вады. Цэлы комплекс навуковых прац пад наглядам Цэнтральнага бюро водных і меліярацыйных даследаванняў правялі навуковыя працаўнікі Сельскагаспадарчай акадэміі і Палітэхнічнага інстытута ў Варшаве, а таксама Інстытута зялёных угоддзяў. Неўзабаве будуць закончаны апошнія, фінальныя ўжо, працы над тэхнічным праектам будоўлі. Галоўным выканаўцам будзе наша прадпрыемства, і гэтае заданне нам пад сілу. Прыступім да яго поўным фронтам ужо ў 1976 годзе, а да 1980 года намерваемся выканаць 80-90 прац. усіх прац і аб'ектаў. Вось гэтай восенню мелі мы прыступіць да геалагічнай разведкі, але, як на зло, Нарва разлілася і трэба будзе пачакаць з бурэннем да замаразкаў.

І на самай справе, сёлета восенню ў верхнім цячэнні ракa Нарва разлілася ў такое возера, што процілеглыя яго берагі ледзь вокам сягнеш. Прамоклыя да ніткі ад праліўных дажджоў, прыселі над ім Бандары, Рыбакі, Боўтрыкі, Бахуры, Буды, Цісоўка, Бярэзіна, Баб'я Гара, Семяноўка, Лука — сярод іх аж шэсць вёсачак на „б", нібы тут іменна быў цэнтр колішняй Польшчы „Б". У міжваенны перыяд былі, напэўна, больш глухія і адсталыя куткі ў краіне, але і ў гэтых ваколіцах людзям нясоладка жылося. Вузкія палосачкі пясчанага поля ды прынараўскія багны, з якіх траву трэба было выносіць на насілках ці ў рэзгінях, брыдучы па пояс у іржавай топелі. Адно пры народнай уладзе сюды прыйшло электрычнае святло, пралеглі шасейныя дарогі, непараўнальна павысіўся ўзровень жыцця. Але найбольшыя пераўтварэнні ў гэтым куточку Беласточчыны пачнуцца толькі цяпер.

**Мікалай Гайдук**

---

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Азерскія

Маленькая вёсачка ў 4-5 км на паўднёвы ўсход ад мястэчка Крынкі Сакольскага павету, што ляжыць сярод палёў і невялікіх пералескаў. У ёй 12 гаспадарак і каля 60 жыхароў.

Жывуць тут **Алекша, Анікей, Гудоль, Зелянкевіч, Лапінскі, Стадольнік** і аж пяць сем'яў **Семянякаў.**

Мясцовыя тапанімічныя назвы палеткаў: **Загуменкі, Далэ, Грабовікі, Глініска, Глыбокі Дол, Баравіна;** лугоў: **Лужок, Луг, Сярэдні Луг, Лазовік, Прапалаўшчына, Цясовік, Шыйка;** лясоў: **Грабовік, Прапалаўшчына;** узгоркаў: **Лыса Гара і Раскопніца.** Рэчак, ручаёў і азёраў няма.

Азерскія — вёсачка маладая, яна паўстала недзе пасля адмены прыгоннага права ў 1861 годзе. Іменна тады вёска **Азраны Вялікія** атрымала тут **надатак,** і група сялян перасялілася сюды. Хоць вёсачка і не старая, але мае сваё багно, а ў ім — сваіх чарцей. Аднойчы падвыпіўшага Лапінскага **нячысты** вадзіў усю ноч па дрыгвястым Лузе. Раніцай жа людзі бачаць: сядзіць Лапінскі раздзеты да бялізны на камені пасярод Луга і крычыць на ўсё горла „Людкове, ратуйце!"

У час апошняй вайны разгарэўся тут **жорсткі бой** паміж немцамі і наступаўшай часцю Савецкай Арміі. Загінуў савецкі разведчык і ўвесь разлік палявой пушкі. Вёска згарэла.

Зямля тут нядрэнная. Пасля камасацыі і пры прымяненні штучных угнаенняў родзіць добра нават на колішніх яловых пагорках. Але горшая справа з лугамі. Азерскія, праўду кажучы, не маюць сенажацей. Абшчынны 20-гектаровы **выган** ляжыць няўдобіцай, а калі б ён быў падзелены, кожны гаспадар меў бы каля 2 га дасканалага сенакосу або добрай пашы. Нялёгкая справа ў Азерскіх таксама з **вадою.** Вось нават і летась навакольныя далінкі і лужкі ператварыліся ў абшырныя азёры, а ў глыбокіх на 40 кругоў калодзежах вады, як на лякарства, ледзь паўвядра пачэрпнеш. Гмінныя і павятовыя ўлады абяцаюць, што ў 1975 годзе будзе пабудаван у вёсцы глыбінны калодзеж. Аднак дагэтуль няма ніякіх заўважальных прыкметаў, каб абяцанне ў вызначаным тэрміне было выканана. Гаспадаркі тут моцныя, людзі гадуюць многа жывёлы, і вада для іх — гэта першая ўмова павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі.

З Азерскіх паходзіць **Уладзімір Семяняка** — бацька вядомага сучаснага беларускага **кампазітара Юрыя Семянякі.** Будучы кампазітар бываў тут часта ў 1940-41 гадах, калі займаўся па класу фартэпіяна ў тагачасным Беластоцкім музыкальным вучылішчы. Блізкі родзіч бацькі Юрыя Семянякі **Мікалай Семяняка** паказваў мне нават захаваны **падмурак** дома дзеда аўтара оперы **„Калючая ружа",** музыкальнай камедыі **„Рабінавае маніста",** многіх інструментальных твораў і музыкі да п'ес і кінафільмаў, а таксама чароўных мелодый **„Ой, шумяць лясы зялёныя", „Явар і каліна", „На зямлі маіх бацькоў"** і дзесяткаў іншых папулярных беларускіх песень.

Моладзь з Азерскіх ахвотна горнецца да навукі. **Лявон Семяняка** закончыў Торунскі універсітэт і цяпер працуе ў Беластоку. **Юльян Семяняка, Зінаіда Альшэўская, Чэслаў і Здзіслаў Стадольнікі** закончылі сельскагаспадарчыя тэхнікумы і працуюць у ПГР-ах, **Альфрэда Гудалеўская** — выпускніца Тэхнікума малочнай прамысловасці. Многія яшчэ вучацца ў сярэдніх школах Беластока.

Прыемныя гэтыя Азерскія, толькі даехаць у іх амаль немагчыма — дарогі тут надта дрэнныя

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



---

## ЗБІРАЕМ ПЛАДЫ ВОСЕНІ

З вялікім поспехам прайшла сёлета маладзёжная акцыя пад назвай „Збіраем плады восені" на Беласточчыне. Члены ЗСМВ дапамаглі сабраць бульбу, буракі, рэпу перш за ўсё там, дзе іх дапамога была неабходнай. На ўліку былі перш за ўсё інваліды, адзінокія пажылыя жыхары вёскі, удовы і ўдаўцы. На час капання бульбы былі арганізаваны шматлікія вясковыя дзяцінцы

У Беластоцкім павеце найлепш дзейнічалі яны ў Васількове (вяла дзяцінец Крыстына Стэфанчук), Рафалоўцы (Дарота Шыманюк), Дарожках (Тэрэса Сухаверская), Новым Александрове (Ядзя Цыльвік), а таксама ў Валілах, Лубніках, Заблудаве.

На Сакольшчыне дзяўчаты апекаваліся дзяцьмі ў Янаве (вяла дзяцінец Марыяна Гадомская), Карыціне (Галена Сабалеўская), Крукоўшчыне (Анна Макарэвіч), Багушах (ЛіляНалівайка), Вайноўцах (Анна Крышэнь), Кузніцы (Ядвіга Байко). Былі арганізаваны яшчэ дзяцінцы ў Генюшах, Смалянцы, Залессі і іншых вёсках.

На Гайнаўшчыне асаблівай увагай ЗСМВ-оўцаў карысталіся дзяцінцы ў Дабрывадзе (вяла яго Марыя Клімовіч), Навасадах (Марыя Ляшчынская), Махнатым (Галіна Кот), Белавежы (Анна Шпаковіч).

Юнакі і дзяўчаты шмат папрацавалі перш за ўсё на полі сваіх падапечных, сельскагаспадарчых гурткоў, сельскагаспадарчых кааператываў, ПГР. Іх дапамога была вельмі карыснай.

На Дуброўшчыне праявілі сваю актыўнасць перш за ўсё члены ЗСМВ у Ячне, Ружанастоку, Сухаволі, Капцёўцы, Вульцы, Звяжынцы, Старажынцах.

У Сакольскім павеце ЗСМВ-оўцы дапамаглі сабраць ураджай сялянцы Юліі Філановіч, дапамаглі ўсім патрабуючым рук да працы ў Стараўлянах, Камёнцы, Юрашах, Багушах, Баброўніках, Смалянцы, Крукоўшчыне, Красным, Паўночным Востраве.

Актыўны ўдзел у капанні бульбы прынялі школьныя гурткі ЗСМВ. Вучні ЗСМР у Міхалове (Беластоцкі павет) капалі бульбу ў ПГР Геранімова. Моладзь з ЗСР у Белавусах, Карыціне і Янаве (Сакольскі павет) капала бульбу на полі ВПГР у Макаўлянах. Школьнікі з ЗСР у Дубінах і Кляшчэлях (Гайнаўскі павет) не паскупілі сваіх сіл пры капанні бульбы ў сельскагаспадарчым кааператыве Бельшчына і на полі сялянкі Аляксандры Дудалевіч, жыхаркі Кляшчэляў.

На Гайнаўшчыне ў руплівы час капання буракоў і бульбы з вялікай дапамогай прыйшлі патрабуючым рук да працы члены ЗСМВ у Міклашэве. Варта прыгадаць, што ў мінулым годзе заваявалі першае месца ў ваяводстве ў акцыях „Кожны колас на вагу золата" і „Збіраем плады восені" і атрымалі высокую ўзнагароду.

**Я. Цялушэцкі**

---

Беларуская ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXIX

**Феміністычная тэматыка і лірыка кахання.** Прадметам сённяшняй характарыстыкі будуць вершы Багдановіча, прысвечаныя мацярынству: „Шчасцем яна аж да краю", „Прычасціўся целу мацеры", „Пачуццю цёмнаму падлеглая", „Цёмнае неба начное", „Да вагітнай", „Трыялет", „Як хораша, калі дзіцё", „Праклянце вагітнай", „З енкам дзіцё ты раджаеш", „Без сіл, уся ў пату, як белы снег, блядна", „Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш", „Смертию смерть поправ", „Тым вянкі суворай славы", „Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла".

Амаль усе названыя вышэй вершы ўвайшлі ў цыкл „Каханне і смерць". Мы ўжо гаварылі аб парадаксальнасці такога загалоўка, паколькі ўсе пачуццё кахання звязваюць з радасцю, з аптымізмам, з надзеяй, з жыццём. Багдановіч адчуваў каханне інакш.

У Вершах „Да вагітнай", „Трыялет", „Як хораша, калі дзіцё", „Без сіл, уся ў пату, як белы снег, блядна", „Прычасціўся целу мацеры" дамінуе элемент задавальнення і аптымізму.

Вагітнай называў Багдановіч жанчыну цяжарную. У творы „Да вагітнай" пахваляе ён унутраную гармонію і спакой цяжарнай жанчыны. Параўноўвае яе цяжарнасць з зернем у коласе, яе жывот з цёмнай і цёплай калыскай. Для паэта фізічная структура жаночага цела, плод дзіцяці і настрой маці складае гарманійную прыгожую цэласць. З яшчэ большай свабодай і лёгкасцю трактуе Багдановіч мацярынства ў вершы „Трыялет". Можам нават гаварыць аб наяўнасці ў гэтым творы элементу далікатнага гумару. Паслухайма гэты верш:

„Дзераўлянае яечка
Ты ўдаеш сабой зусім.
Адчыні яго, — а ў ім
Дзераўлянае яечка.
Гэтак сама чалавечка
Затаіўшы ў нетрах, тым
Дзераўлянае яечка
Ты ўдаеш сабой зусім".

Гэтая лёгкасць захоўваецца і ў вершы „Як хораша, калі дзіцё". Твор, аднак, ад пачатку да канца ўтрыманы ў сур'ёзным тоне. Колькі ж аднак у ім гарэзлівасці, залётнасці і кахання да таго чалавека, які мае нарадзіцца! Верш мае выключна феміністычны характар. Чытаючы яго, здаецца, што не мог яго напісаць мужчына, што нарадзіўся ён з кахання і надзеі жанчыны.

„Як хораша, калі дзіцё
Пад сэрцам ціха зварухнецца,
І ўраз па целу разліецца
Яшчэ нязвычнае чуццё.
Душа — ў салодкім палусне,
І кажуць знакі чалавечка:
„Я — пцечык, ты — маё гняздзечка,
Не руш, не руш, не руш мяне!"

Так, у гэтым вершы Багдановіч прамовіў ад імя маткі, ад імя яе фізічнага нутра, ад імя яе душы і ад імя дзіцяці.

Формай аптымістычнай ілюстрацыі мацярынства з'яўляецца таксама верш „Без сіл, уся ў пату, як белы снег, блядна". Першы і другі радкі верша:

„Без сіл, уся ў пату, як белы
снег, блядна,
На злітаю крывёй і змятай
караваці" —

здавалася б, прадвяшчаюць драматычныя падзеі. Наша боязнь, аднак, не пацвярджаецца далейшым зместам твора. Напружанасць і драматызм прападаюць з верша без следу. Пачынае ў ім дамінаваць радасць, выкліканая шчаслівым нараджэннем дзіцяці. Верш характарызуецца дасканалай вобразнасцю. Напамінае ён сцэны з карцін Адраджэння, якое кланялася з удзячнасцю маці і яе нованароджанаму:

„Ляжыць шчаслівая і жалкая яна,
І аб адным у ёй цяпер дума:
„Я — маці".
Яна збалела ўся. Ёй, можа, ўжо не
жыць.
І усё-ж-ткі радасцю бязмежнай
ззяюць вочы,
А на яе тугіх грудзях ужо ляжыць
Чырвоны, цёпленькі і неяк смешна
смокча".

У вершы „Прычасціўся целу мацеры" маем дачыненне з больш „дарослым" дзіцём, якое напілося матчынага малака, заснула ў калысцы, але ўсё яшчэ лунае над ім ціхая песня той, якая дала яму жыццё і якая марыць аб яго шчаслівай долі.

Усе прыведзеныя вершы глыбока эмацыянальныя. Пісаны яны не розумам, а сэрцам. Не можам сумнявацца, што Багдановіч глыбока любіў дзяцей і гэтая любоў акрэсліла характар усіх аналізаваных вышэй твораў.

---

БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У „Доме кнігі", кнігарня № 9 у Гайнаўцы, вул. 1 Мая 34, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Лойка Алег,** Шчырасць, 1973, стар. 128, цана 3 зл. 70 гр.

Новы зборнік вершаў беларускага паэта сярэдняга пакалення.

**Матэвушаў Васіль,** Верасы, 1972, стар. 218, цана 6 зл. 80 гр.

Чарговая кніга вершаў аўтара сярэдняга пакалення.

**Буйло Канстанцыя,** Роднаму краю, 1973, стар. 96, цана 2 зл. 90 гр.

Старэйшая беларуская паэтэса, якой ужо спаўняецца 75 год жыцця і звыш 60 гадоў творчасці, дарыць нам новыя свае творы.

**Барсток М. М.,** Адзінства і разнастайнасць сучаснай беларускай паэзіі, 1973, стар. 208, цана 5 зл.

Праца вядомага беларускага савецкага крытыка і літаратуразнаўцы аб сучаснай беларускай паэзіі і яе напрамках развіцця. Разглядаюцца таксама індывідуальныя стылі творчасці паасобных беларускіх паэтаў.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki" Księgarnia Nr 9.
17-200 Hajnówka, ul. 1 Maja 34.

(мг)



 



*Харавы калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

НА НІВЕ БГКТ

## ПА-НАРОДНАМУ ВЕСЕЛА І ПРЫГОЖА

Вечарына, што адбылася ў суботу 16 лістапада г.г. у беларускім клубе на Варшаўскай 11 у Беластоку, надоўга застанецца ў памяці членаў калектыву песні і танца беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ і прыбыўшых гасцей. А прысвечана яна была дзвюм адметным у жыцці аддзела справам: падвядзенню вынікаў дагэтуляшняй дзейнасці беластоцкіх самадзейнікаў і прысваенню імя іх маладому калектыву.

На ўрачыстасць прыбылі старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** галоўны рэдактар „Нівы" **Ю. Валкавыцкі,** сакратар ГП БГКТ **Я. Зенюк,** штатныя працаўнікі Галоўнага праўлення нашага таварыства.

**Адкрываючы** ўрачыстасць і вітаючы гасцей, старшыня беластоцкага гарадскога аддзела **М. Гайдук** заўважыў, што гэтая вечарына з'яўляецца асабліва прыемнай, бо яна прысвечана беластоцкім самадзейнікам, якія задаюць тон культурнай дзейнасці аддзела.

— Ваш калектыў яшчэ вельмі малады, яму няма яшчэ і года, але ён ужо мае значныя мастацкія дасягненні і ўнёс вялікі ўклад у папулярызацыю беларускай народнай песні і танца ў Беластоку і па ўсёй Беласточчыне, — падкрэсліў у сваім выступленні **М. Самоцік.** — У вас ужо звыш 20 выступленняў, якія глядзела каля 30 тысяч чалавек. Вашы канцэрты дастаўляюць многа прыемнасці і ў горадзе і ў вёсцы, а самаахвярнасць, з якой вы аддаецеся народнаму мастацтву, дастойна самай высокай ацэнкі.

Затым тав. **М. Самоцік** уручыў членам калектыву і яго мастацкім кіраўнікам **Э. Жукоўскай** і **Я. Крупе** дыпломы, прызнаныя Галоўным праўленнем БГКТ, а кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ **Л. Васілюк** паднясла ім кветкі.

— Дзіця і спявае і танцуе, яго хваляць і абдорваюць, а яно яшчэ не хрышчанае, — заўважае М. Гайдук. — Давайце ж выбярэм кумаў. У народзе так ужо павялося, што за куму просяць дзяўчыну ці маладзіцу прыгожую і багатую, а за кума — хлопца ці мужчыну статнага і дзелавога, каб дзіцяці ў жыцці падмога ды апека была.

І прапануе на куму бухгалтара ГП БГКТ **Галену Мялешка,** а на кума — старшыню ГП БГКТ **Мікалая Самоціка.**

„Дзіця" адабрае прапанову гучнымі апладысментамі.

Спецыяльная камісія па выбару імя распячатвае урну з прапановамі, што была выстаўлена ў клубе ўжо некалькі тыдняў. У ёй аказаўся 41 голас з 35 іменамі. Старшыня камісіі В. Цімашук аб'яўляе вынік:

— **„Каласкі".**

„Дзіцяці" імя падабаецца. Яно так красачна ўзбагачае наш палетак культурна-асветнай дзейнасці: тыднёвік БГКТ — **„Ніва",** бельскі калектыў песні і танца — **„Васілёчкі",** беластоцкі ж — **„Каласкі"...**

Кумы падносяць **„Каласкам"** у дары спецыяльную памятную кнігу-хроніку, у якую будуць упісвацца падзеі з жыцця калектыву. Свае подпісы ў кнізе складаюць кумы, члены калектыву, госці. Кум жадае поспехаў новахрышчанаму на эстрадах. Гучыць звонкае „Сто год!".

За багата застаўленымі сталамі ліюцца народныя „Кума мая кумачка", „Ой, ляцелі гусі з броду", „Люблю наш край". Падымаюцца тосты за калектыў, яго кумаў і мастацкіх кіраўнікоў...

Да світання іграў аркестр **„Каласкоў",** кружыліся пары і звіваліся карагоды, не было канца песням і гульням.

Па-народнаму весела і прыгожа адсвяткавалі свае „хрысціны" беластоцкія **„Каласкі".**

**(іс)**

ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ




У по-лі ў до-лі-ні рос-цві-ла ка-лі-на —



Мло-да дів-чы-на по-дар-кі бі-лі-ла.

*У полі ў доліні росцвіла каліна —*
*Млода дівчына подаркі біліла.*
*Біліла вона, гором вышывала,*
*Свого мілого штодэнь ожыдала:*
*— Прыедь, міленькі, нэ бавсе, нэ бавсе,*
*Вжэ мой батэнько прыбравсе, прыбравсе.*
*Тісовы столы застілав, застілав,*
*Тэбэ, міленькі, дожыдаў, дожыдаў.*

Ад Феадосіі Маліш, 1900 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія Гайнаўскага павету, запісаў 24 верасня 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Будучы цяжка хворым і знаходзячыся ў бальніцы, бацька ў прысутнасці сакратара гміннага ўпраўлення распісаў зямлю і будынкі на жонку і двое дзяцей. Як доўга опіс гэты будзе правамоцны і што з ім рабіць, і ці праз нейкі час мы не страцім права да зямлі, запісанай нам бацькам?

АДКАЗ: Можна дадумацца, што опіс, складзены бацькам у прысутнасці сакратара гміннага ўпраўлення, з'яўляецца завяшчаннем. Цывільны кодэкс прадбачыць магчымасць састаўлення завяшчання праз асведчанне волі ў прысутнасці начальніка гміны або сакратара і двух сведкаў. Калі гэткія патрабаванні выкананы, завяшчанне важна і пакуль завяшчальнік яго не адменіць, застаецца важным незалежна ад таго, колькі часу пройдзе ад часу, калі яно было складзена. Права на маёмасць, запісаную наследнікам, пераходзіць на іх толькі пасля смерці завяшчальніка. Калі завяшчаннем паасобныя часткі сельскай гаспадаркі запісаны паасобным наследнікам, яны не атрымаюць на ўласнасць запісаныя ім часткі. У гэтым выпадку суд ацэніць паасобныя часткі і аблічыць, якую частку цэласці складае кожная паасобная частка. Прыкладам, вартасць запісанай часткі маткі 25.000 зл., а дзяцей 20.000 зл. і 15.000 зл. Разам гаспадарка варта 60.000 зл. Суд сцвердзіць, што матка мае права да 25/60, а адпаведна 15/60 і 20/60 — усёй спадчыны. У гэтых частках яны будуць супольнымі ўласнікамі цэлай гаспадаркі, а калі захочуць падзяліцца, то суд прызнае гаспадарку аднаму, а астатнім сплату. Калі ўсе яны трывала няздольныя да працы — гаспадарка прыпадзе дзяржаве, якая сплаціць усім наследнікам.

## ДРУГАЯ МАЛАДОСЦЬ КІНО

Жыхары Беласточчыны карыстаюцца 104 кіназаламі, у тым ліку 51 — з панарамічнай кінаапаратурай.

У апошнія гады значна павялічылася колькасць гледачоў. Спрыяюць гэтаму дыскусійныя фільмовыя клубы (ДКФ), сустрэчы з кінарэжысёрамі, акцёрамі, знаўцамі кіно, конкурсы, спецыяльныя кінасеансы для школьнай моладзі, акцыя „З фільмам на ты"; амаль у кожнай з гэтых форм Беластоцкае ваяводства мае відавочныя дасягненні. У Беластоку заснавана кіно „Студыя", каб папулярызаваць найлепшыя фільмы на свеце.

На Беласточчыне існуе адзін з нешматлікіх у нашай краіне сельскі фільмовы клуб у Міхалове, які карыстаецца вялікім поспехам у сваім асяроддзі.

Усё шырэй амаль ва ўсіх школах на ўроках выкарыстоўваюцца кінафільмы навуковага характару.

Павялічылася колькасць кінааматараў і таму, што ўсе кіназалы былі ў апошнія гады павялічаны шляхам капітальных рамонтаў. Эфектам мадэрнізацыі з'яўляецца не толькі кінатэатр „Покуй" у Беластоку, але таксама пасучаснаму абсталяваныя кіназалы ў Міхалове, Бранску, Простках, Ставісках, Мельніку і іншых. **(Ц.Я.)**

## Веды і практыка — крыніца поспехаў

Адбыліся павятовыя алімпіяды сельскагаспадарчых ведаў у Беластоцкім і Бельскім паветах.

У Беластоцкім павеце ў алімпіядзе ўдзельнічала 70 маладых гаспадароў. Першае месца заваяваў Зэнан Войшка з вёскі Баранкі. Другое і трэцяе месца занялі Казімір Олдзей з Бранішэва і Андрэй Завадскі з Залукаў. У катэгорыі камандаў першынство заваявала каманда з Тыкоціна перад камандамі з Рэпіскаў і Саннікаў. Паасобныя пераможцы і каманда з Тыкоціна прымуць удзел у ваяводскай алімпіядзе.

Удзельнікі алімпіяды мелі магчымасць агледзець выстаўку сельскагаспадарчых кніг і часопісаў, а таксама экспанаты выпускаемых мінеральных угнаенняў.

У Бельскім павеце ў алімпіядзе сельскагаспадарчых ведаў удзельнічала 27 асоб. Першае месца заняў Тадэуш Галэмбёўскі з Галёнкаў і далейшыя — Юзэф Залеўскі, Вітальд Грынявіцкі і Зыгмунт Карпесюк.

Прысутныя на сельскагаспадарчай алімпіядзе агледзелі выстаўку сёлетняга ўраджаю і выдавецкіх навінак на сельскагаспадарчыя тэмы.

На ўвагу заслугоўвае факт, што як у адным, так і ў другім павеце лаўрэатамі алімпіядаў былі маладыя гаспадары, якія гаспадараць самастойна. (ця)

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ДАНУТА ЗУБРЫЦКАЯ

Настаўнік — чалавек, які раскрывае дзецям вочы на дзівосны і цудоўны свет нашага жыцця. Так можна сказаць пра Дануту Зубрыцкую, настаўніцу геаграфіі ў пачатковай школе ў Нараўцы (Гайнаўскі павет). Свой прадмет яна вельмі любіць. Гэтую любоў яна ўмее перадаць і сваім вучням.

Маладая настаўніца на працягу двух гадоў (у Нараўцы яна навучае ўсяго трэці год) арганізавала кабінет з неабходнымі на ўроках геаграфіі прадметамі, рознымі прыладамі і картамі, а пасля агародчык з геаграфічным вымяральным абсталяваннем. Будзе тут яшчэ знаходзіцца метэаралагічная скрынка са спецыяльнымі апаратамі і прыладамі, сонечны гадзіннік. Такім чынам, школа пабагацела на яшчэ адзін кабінет. Ажыццяўленне мары пра сапраўдны кабінет патрабавала нямала часу і захадаў. Але настаўніца не лічылася са сваім вольным часам. Хаця, калі гэта ёсць у настаўніка той вольны час...

Цяпер прыемна зайсці ў геаграфічны кабінет. У ім амаль усе неабходныя школьныя дапаможнікі, густоўна выкананыя лозунгі, насценгазеты. Вучні класаў IV—VIII, якія вучацца геаграфіі, вельмі палюбілі гэты прадмет. Настаўніца вучыць дзяцей цікава, захапляюча. Яе ўрокі характэрны глыбокім зместам, разнароднасцю метадаў і прыёмаў.



Нядаўна нараўкаўскую школу наведалі асветныя інспектары. Яны прысутнічалі на ўроках настаўніцы Дануты Зубрыцкай і далі ім самую высокую ацэнку. Ва ўроках гэтых творчы ўдзел прымалі вучні.

Настаўніца Данута Зубрыцкая дадаткова вядзе яшчэ ў школе ўрокі практычных заняткаў з дзяўчынкамі, а таксама СКО. Ашчадныя кніжкі маюць тут усе 269 вучняў. Ашчаднасці іх складаюць суму 108 тысяч злотых.

Варта дадаць, што грошы настаўніца пераказвае ў банк СОП, які налічвае працэнт. Апрача таго, найбольш ашчадныя вучні на канец навучальнага года атрымліваюць узнагароды. Тыя школьнікі, якім далёка хадзіць у школу, атрымалі нават веласіпеды.

* ✲ *

Пасля ўрокаў не канчаецца працоўны дзень у настаўніцы. Штодзень да позніх вячэрніх гадзін свецяцца вокны ў доме, у якім яна жыве. Настаўніца правярае сшыткі.

Заўтра ў яе ўрок...

**Янка Цялушэцкі**
**Фота аўтара**

## Накаўт

Хуліган Іваноў мяне ўдарыў. Валюча.

Я напісаў на яго пад капірку скаргу ў розныя інстанцыі.

Праз дзесяць дзён з адной прыйшоў шматабяцаючы адказ: „Дакладна разабраўшы ваше пытанне, мы накіравалі скаргу на разгледжанне Іванову. Звярніцеся непасрэдна да яго".

Я патэпаў да Іванова. Ён сядзеў за сталом, уважліва чытаў маю справу і ківаў галавою ад абурэння.

— Як добра, што ты сам прыйшоў. Я баяўся, што мне цябе давядзецца па ўсім горадзе шукаць. Дык на каго ты скардзішся? — спытаў ён, робячы некалькі маланкавых удараў нябачанаму праціўніку.

— Дзесяць дзён назад позна вечарам вы з'ездзілі мне ў вуха. Вось даведка з экспертызы.

— Добра, я веру табе на слова. Што ж, твая справа скардзіцца, мая — рэагаваць, — сказаў хуліган.

Ён падышоў да мяне і сціснуў кулак. У яго былі велізарныя мускулы і добрая рэакцыя.

— Разгледзеўшы тваю заяву...

Хук!

— Я прыйшоў да высваду...

Аперкот!

— Што факты пацвердзіліся.

Я адляцеў у кут і не дыхаў мінут пяць.

— Ёсць яшчэ да мяне пытанні? — спытаў Іваноў.

— Не, не. Дзякую.

— А прэтэнзіі?

— Ну, што вы!

— Тады дуй дамоў.

**В. Катэнка,**
**А. Давідовіч**



### НА ДЗІВА

— Ты ведаеш, мяне ўчора бясплатна пусцілі ў заалагічны сад...

— Нічога дзіўнага. Дзіўна толькі, што табе ўдалося выйсці адтуль.




### І ЗАРАЗ НЕ БАЧУ

П'юць два кумы і сардэчна паміж сабою размаўляюць. А як добра ўпіліся, дык адзін і кажа:

— Куме! Вып'ем, бо як памрэм, дык і не пабачымся.

— А я цябе, куме, і зараз не бачу, — адказвае кум.






*— Мне хацелася б што-небудзь такое, што закрыла б плямы на сцяне.*

### НЯВАЖНА

— Падстрыжыце мяне, калі ласка, пад вожыка.

— Ды вам гэта стрыжка не падыдзе.

— Гэта няважна. Я проста хачу, каб жонка перастала сядаць мне на галаў.

### ПАРАЙЦЕ

— Парайце, што мне ўзяць на абед, — звяртаецца наведвальнік да афіцыянта.

— Як вам сказаць? Найменш сёння скардзяцца на біфштэкс.




### РЭХА

Так павялося ўжо спрадвеку
(Тут не адняць і не дадаць):
Каб нарадзілася дзесь рэха,
Спачатку трэба пагукаць.

**Ул. Правасуд**

## Сцяпанавы ўлазіны

Можа верыш, мо не верыш —
Атрымаў Сцяпан кватэру.
Жонка ў шчасным непакоі:
На траіх аж пяць пакояў!

Навасёлле, як вяселле,
Пры закусцы п'ецца „зелле".

Яшчэ кроплю ды зноў трошкі,
Выпівалі ўсе за дошкі,
Каб не сохлі, не рыпелі,
Батарэі добра грэлі,
Каб вады было даволі,
Каб не капала са столі!

Праз паўмесяца ж, не болей,
Пацякло цурком са столі.
А пасля вады не стала
І труба запаравала.
У Сцяпана ныюць ногі:
Абабіў усе парогі.
Абураецца ўпраўленне:
„Мы зрабілі ўсё сумленна"!
Трэст дабавіў: „Дом, як шклянка,
Не турбуй ты нас, Сцяпанка!
Дом камісія прымала,
Акты з ходу падпісала".

Гаспадар прыйшоў дахаты,
Кліча кума, кліча свата,
Сам бярэ сякеру ў рукі...
У кватэры грукат-стукат:
Цешча месіць з вапнай гліну,
За прараба — гаспадыня.
Ах, каб і будаўнікі
Мелі ў працы спрыт такі!

**Кастусь Сіневіч**





— Як бы мне хацелася пабыць у тваёй шкуры..., — шапнула модніца выдры.

Калі жонкі не было побач, ён прадстаўляўся: «Свабодны мастак»!



*— Колькі ж трэба паўтараць: твары ў маладажонаў павінны быць шчаслівымі!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ані Рышчук з Кузава і Раі Андрэюк з Істока Гайнаўскага павету, а таксама Ірэны Ляшэўскай з Плёсак Бельскага і Ірэны Федзюкевіч з Піражкой Сакольскага павету змяшчаем песню з рэпертуару „Чырвоных гітар".*

**З французскага**

### НЕ ЯГО

Парыжанін, які праводзіў лета ў вёсцы, прыйшоў скардзіцца да фермера.

— Мсье, ваш сын — сапраўдны разбойнік.

— Што ж ён нарабіў?

— Калі я праходзіў па вуліцы, ён кінуў у мяне камнем, цэлячыся ў галаву.

— І... ён у вас папаў?

— На шчасце, не.

— Тады, — сказаў фермер, — гэта быў не мой сын.

**З украінскага**

### ЗДАГАДАЙСЯ, ДЗЕ ЎПАДЗЕШ

У вагоне метрапалітэна сустрэў сёння знаёмага кіраўніка раённага маштаба.

Змарнеў, падаўся, на твары — балючая пячаць цяжкага суму.

— Што з вамі? Вы быццам з крыжа зняты?

— Пацярпеў аварыю...

— Дзе, якую аварыю?

— Знялі з пасады і страгача ўляпілі.

— За што?

— За няправільныя паводзіны ў быту!

— Што ж вы такое ўчынілі?

— Піў ды не закусваў...

Гэтая сумная гісторыя яшчэ раз нагадвае нам, што ў кожнай справе ёсць свая тэхналогія. А тэхналогія — гэта дама сур'ёзная і яна не любіць, калі да яе адварочваюцца спіною.

**Хведар Макіўчук**



*Чаго ў спорце не бывае!*




### ЧЫМ БЫ НІ ЦЕШЫЛІСЯ...

Місіс Сміт кіруе ў Скотланд-Ярдзе спецыяльнай групай па барацьбе з крадзежамі ў магазінах. У інтэрв'ю газеце „Дэйлі экспрэс" яна паведаміла, што сярод злоўленых на месцы злачынства ў лонданскіх магазінах вялікі працэнт складаюць забяспечаныя людзі. Адзін з іх, напрыклад, маючы пры сабе каля 3.000 фунтаў стэрлінгаў, спакусіўся бляшанкай кансерваў цаной 29 пенсаў. Другая „пакупніца", у якой на пальцы быў пярсцёнак коштам 5.000 фунтаў, спрабавала сцягнуць некалькі маткоў нітак... Місіс Сміт, вопытная паліцэйская дама, сцвярджае, што гэтыя багатыя злодзеі, зусім не хворыя на клептаманію, а крадзеж для іх з'яўляецца своеасаблівым хобі.

### СЯБРЫ ЗМЕЙ

У розных краінах здаўна існуюць таварыствы: сябры птушак, саюзы аховы аленяў, асацыяцыі захавання антылопы-гну. Аднак да гэтага часу не мелі сваіх апекуноў... ядавітыя паўзуны. Гэта „ўпушчэнне" ліквідавалі нядаўна ўдзельнікі устаноўчага з'езду „Інданезійскага таварыства аматараў і дрэсіроўшчыкаў ядавітых жывёл", які адбыўся ў горадзе Семарангу.

### КНІГА ПРА НЯСМАЧНУЮ ЕЖУ

„Што прыгатаваць для гасцей, якіх вы не хочаце бачыць другі раз у сваім доме". Кнігу пад такім „прывабным" загалоўкам выпусціла даволі вядомая ў ЗША пісьменніца Джыл Фрэйрэр. Амерыканскія дамашнія гаспадыні атрымалі сто рэцэптаў выключна прывабных на выгляд, але нясмачных і нават выклікаючых агіду страў. Цікава, што гэта кніга стала ў Злучаных Штатах бестселерам.



Той, у каго камень на сэрцы, часта перакладае яго за пазуху.